гэта **зложана-залежны** сказ. Напрыклад: *што з вовы ўпала, то й прапала. Таму сьляпы плача, што сьцежкі ня бача.*

Але зложаны сказ можа складацца з раўнасільных незалежных сказаў. Гэта—**зложана-злучаны** сказ. Напрыклад: *Прыгрэла сонейка, згінуў сьнег, асушылі вятры зямлю. Ластаўка дзень пачынае, а салавей канчае. Тут рэчка пад бокам, і процьма ў ёй рыбы. Слухаюць людзі, і сэрца іх млее.*

Тутака сказы незалежныя адзін ад другога і *злучаныя* сэнсам, а часта і рознымі злучнікамі: *а, і, але, бо, ці, толькі* і інш.

**§ 106. Знакі прыпынку** маюць азначыць на пісьме тое, што ў мове выражаецца прыпынкам або зьменай голасу (*інтонацыя*).

**Пункт** (.) — знак найвялікшага прыпынку, паказвае, шту думка і сказ зусім закончаныя.

Найчасьцей ужываны знак, што нават прыклады лішнія.

**Коска** (,) — знак найменшага прыпынку, паказвае, што думка і сказ ня скончыліся, што далей ідзе нейкае дапаўненьне або аб'ясьненьне.

Коска выдзяляе зваротак (клічнае слова), прыдатак, пабочнае слова і пабочныя сказы, даданыя сказы з асноўнага і разьдзяляе падобныя часьціны ў зьлітым сказе. Напрыклад:

*Пойдзем, братка, на работу! Будзеш ты чытаць нам, цёмным няўмекам. Такая ўжо, відаць, была яго доля. Кругом круціць завіруха, гуляе, шуміць. Будуць ветры ва вугламі выць і плакаць, і стагнаць. Сад, што быў чорны, ужо распусьціўся. Чалавек, покі ў горы не пабудзе, ня знае дабра.*

Коска можа разьдзяляць нават незалежныя сказы, калі яны кароткія і блізка да сябе прымыкаюць, або калі паміж імі стаяць **і, а, але**, напрыклад: *Прыгрэла сонейка, згінуў сьнег, асушылі вятры зямельку. Лета вырабе, а зіма паядае.* Загрымеў гром, *і пашоў дождж.*

**Пункт з коскай** або **пасрэднік** (;) — знак пасярэдняга значэньня паміж пунктам і коскай, дзеліць сказы закончаныя, але па сваей думцы блізкія міжы сабою. Напрыклад:

*Гасьне корчык на кажінку; пацямнела ў хаце; поўнач пеўні пракрычалі, да ня сьпіць ўсё маці. Вясною косы*

*сонца штодзень робяцца цяплейшымі. Птушкі пяюць вычней і весялей; перайка на іх асьвяжаецца, і самі яны ажыўляюцца.*

**Два пункты** (:) ставяцца 1) перад пералічэньнем, калі ёсьць слова, што абымае ўсё пералічанае, напрыклад: *Год мае чатыры* **поры**: вясну, лета, восень і зіму. 2) паміж незалежнымі сказамі, калі адзін аб'ясьняе другі: *Тут ня гандаль, тут ня крама: няма дзёгцю, няма солі.* Прышла пара касавіцы: трэба прымацца за касьбу.

**Працяжнік** (—), быццам пункт, перарыў, сярод няскончанага сказу. Працяжнік ставіцца пасьля пералічэньня, або там, дзе прапушчана нейкае слова, і, наагул, тады, калі хочам зьвярнуць, *працягнуць* увагу слухача. Напрыклад: *Вясна, лета, восень і зіма — поры году. Чужая сіла — асіна. Лішня нітка — палатну завада. Глянуцe — нехта едзе. Падсадзі — сарву грушку.*

Апрача таго, працяжнік ужываецца ў перадачы гутаркі для аддзяленьня мовы аднэй асобы ад другой і пры адказе на пытаньне: А хто там ідзе?—Беларусы.

**Недаказ** або **многакроп'е** (...) ставіцца, калі думка не даказана да канца, абрываецца, напр.: *Сказаў-бы я табе... але што там гаварыць*!

У **чужаслове** („—“ або «—») ставяцца або чужыя словы (ня тэй асобы, што гаворыць, ці апавядае), або словы нечым асаблівыя, напр.: Узяў шапку і, сказаўшы: „аставайцеся здаровыя!“ вышаў з хаты. „Наша Доля“ — першая беларуская газэта. Прызнаюся, я не спадзяваўся такой „далікатнасьці“ ад пана.

У **дужкі** бярэцца паясьненьне, пабочнае слова або пабочны сказ: *Баяцца не цівуна, а яго бізуна* (*старая прыказка*).

**Пытальнік** (?) стаіць пасьля пытальнага сказу: *Ды куды ты, дуб зялёны, пахіляешся?*

**Клічнік** (!) выражае выкліч, напрыклад: Добры вечар, пане гаспадару! Брацьця! ці зможам грамадзкае гора? брацьця! ці хопіць нам сілы? Гэй наперад, покі сэрца б'ецца, рвецца на простор! Годзі млеці ў паняверцы! Гэй, да сонца! гэй, да зор! Сёньня ў нашай моцы гора, мы жыцьця гаспадары!

# ЗЬМЕСТ.

## ДРУГОЕ КОЛА.